Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год – 6 зл., за паўгоду – 3 зл., за 3 мес. – 2 зл., за 1 мес. – 50 гр.

Год I. Вільня 11 чэрвеня 1931 г. № 13

## НА АБАРОНУ КУЛЬТУРЫ.

Усім ведама, як пабіта й пасварана паміж сабою беларускае грамадзянства. Здаецца, што паміж паасобнымі партыямі і групамі барацьба вядзецца не на жыцьцё, а на сьмерць. І пэўныя групы даходзяць ажно да таго, што — у мамэнты асабліва напружанага змаганьня з сваімі *беларускімі* працiўнікамі — яны гатовы звварачацца аб дапамогу да *ворагаў* усяго, што толькі ёсьць беларускага, — значыць, да *сваіх уласных ворагаў*.

Спробы даказаць, што паміж усімі намі ёсьць *больш таго, што нас зьвязывае* ў вадну беларускую сям'ю, чым таго, што нас *разьдзяляе,* — не дасягалі дагэтуль сваей мэты. Гэтак, як ведама нашым чытачом, разьбілася летась спроба зрабіць адзіны беларускі блёк падчас выбараў у Сойм і Сэнат, ды вынік гэтага аказаўся *для ўсіх беларусаў — катастрофальным.* Разьбілася гэтак сама і спроба *агульна-беларускага выступленьня* проці гвалтаў над нашымі братамі ў Савецкай Беларусі, — і ворагі нашыя ад гэтага толькі яшчэ балей абнаглелі...

Але жыцьцё балюча сцьвярджае, што такі стан расьцярушаньня нацыянальных сілаў робіць прост немагчымай усялякую творчую працу і ў тэй галіне, якая зьяўляецца абсалютна патрэбнай для кожнага беларуса, незалежна ад таго, да якое партыі ці кірунку ён належыць: у галіне спраў культурных. І беларускае грамадзянства патроху пачынае ўжо разумець гэта і — шукаць лякарства на нашую запраўды-ж пагрэжаючую нам нацыянальнаю сьмерцяй хваробу. Апошні сход сяброў Бацькаўскага Камітэту пры Віленскай Беларускай Гімназіі мае з гэтага пункту гледжаньня вельмі паказальнае значэньне.

Як ведама, пэўныя польскія сфэры здаўна вялі і вядуць лютую барацьбу з усімі праявамі беларускасьці пад Польшчай. Гэтыя сфэры ў апошнім часе знайшлі сабе „шчырага" памагатага, дастойнага ягоных папярэднікаў — Аляксюкоў, Валэйшаў ды Паўлюкевічаў, у асобе „тоже бѣлоруса", былага гэршта „Ноўгарадзкай Чрэзвычайкі" пана Фабіяна, ведамага ўсім на Віленскім грунце пад назовам: „Марцін з балалайкай", каторы за „юдавыя срыбнікі" ўзяўся за прадоўжаньне „падрыўной" работы, якую да яго рабілі камуністы ў беларускіх культурна-асьветных установах і арганізацыях Заходняе Беларусі. У першы чарод была зроблена спроба падарваньня Віленскае Гімназіі, як наймацнейшае беларускае школы, з якое з году ў год выходзяць дзесяткі будучых нацыянальна-сьвядомых беларускіх інтэлігентаў. Але ў гэты мамэнт — перад яўнай пагрозай установе, дзе вучацца дзеці прадстаўнікоў усіх беларускіх палітычных груп і кірункаў, — нашае перасваранае і расьцярушанае грамадзянства супольнымі сіламі дало рашучы адпор правакацыі гэтага пана. І з гэтага пункту гледжаньня сход Бацькаўскага Камітэту 28 траўня мае асаблівую вагу: ён паказаў, што на абарону загрожанае агульна-нацыянальнае культурнае пляцоўкі могуць выступаць салідарна і прадстаўнікі групы Цэнтрасаюзу, і іхныя палітычныя ворагі — хадэкі. Выяўленьнем гэтага былі вынікі выбараў новага прэзыдыюму Бацькаўскага Камітэту: побач з старымі сябрамі яго, Астроўскім, Каралём і інш., як прадстаўнікамі цэнтрасаюзнае большасьці ў Камітэце, *дзеля супольнае абароны Гімназіі* былі ўведзены ў прэзыдыюм і прадстаўнікі хадэцкае меншасьці — кс. Станкевіч і Багдановіч.

Мы ня будзем ашуківаць ані сябе самых, ані начых чытачоў, даводзячы, быццам на гэтым здаровым водруху беларускага грамадзянства спыніцца сама сабой унутраная палітычная барацьба сярод беларусаў. Прычыны гэтае барацьбы — лішне глыбокія і часткова крыюцца зусім не ў самым беларускім грамадзянстве... Але дзень 28 траўня мусіць стацца перасьцярогай для тых, хто на гэтай барацьбе спэкулюе дзеля сваіх палітычных мэтаў, у істоце сваей варожых беларусам. Жыцьцё — дужэйшае за ўсе іх хітраваньні; яно і прымусіць беларусаў, ня гледзячы на палітычныя разыходжаньні сярод іх, крэпка аб'яднаць свае сілы прынамся дзеля абароны таго, што зьяўляецца найвялікшым багацьцем народу: нашых *культурна-нацыянальных здабыткаў*. Тут мусіць і — верым — будзе існаваць адзіны беларускі фронт.

## СУЧАСНЫ ГАСПАДАРЧЫ КРЫЗІС У ПОЛЬШЧЫ І ЗЯМЕЛЬНАЯ РЭФОРМА.

У польскай прэсе, найбольш уласьніцкай ды правіцовай, як гэта ня дзіўна, што раз то часьцей зьўляюцца артыкулы, якія даводзяць, што сучасны — нячуваны, страшэнны, катастрафічны — гаспадарчы крызіс у Польшчы ёсьць у значнай меры рэзультатам... нявыкананьня ў свой час Польшчай зямельнай рэформы.

Спозьнена, як заўсёды — паводле трафнай пагаворкі — «па шкодзе» — але неяк прыходзіць польская думка да мудрасьці... толькі-б — не запозна, толькі-б шчырая мудрасьць выразілася-б урэшце ў шчырай, разумнай, плянов й акцыі — ратунку.

Калі-б зямельная рэформа была выканана плянова і сумленна тады, як яна была распачата слаўнымі законамі 1920 г., дык цяпер у Польшчы — за 10 гадоў магла-б ужо ў значнай меры ўкараніцца тая новая «зямельная будова краю», той новы тып здаровага сярэдняка і дробнага земляўласьніка — хлебароба, стварэньне якіх мела заданьнем з вялікім сацыяльна-гаспадарчым размахам пляновая рэформа.

Але гісторыя ў Польшчы пайшла неяк іншым шляхам. — Сялянства, якому дадзена было ўваскрэсшай польскай дзяржавай столькі абяцанкаў, калі трэба было бараніць яе ад ворага ў часе вайны, пасьля перамогі ўсё больш адсоўвалася ад уплыву на дзяржаўную ўладу. Замест таго — усё бліжэй пачала падсоўвацца да ўлады тая кляса абшарнікаў, якая ў першыя часы будаваньня адроджанай Польшчы была цалком адкінена ад улады...

У выніку цэлага раду прычынаў, якіх мы тутака разглядаць ня будзем, якраз гэтая кляса абшарнікаў аказалася найбольш уплывовым гаспадарча-палітычным чыньнікам у Польшчы. Дзіва тады, што зямельная рэформа была цалком пахавана, замяніўшыся блізу цалком неабмяжаванай зямельнай парцэляцыяй і спэкуляцыяй. У выніку такой палітыкі сялянская кляса, якая стварае ў Польшчы больш, як дзьве трацьціны ўсяго яе насяленьня, стала і няўхільна занепадала.

Як сьцьвярджае афіцыяльная статыстыка, дагэтуль — на 3 мільёны 256.000 сельскіх гаспадарак у Польшчы блізу 65%, ці каля дзьвюх трацьцін, ня маюць магчымасьці выкарміць нават уласнай сям'і працоўнага хлебароба. (Докт. Мяч. Шаўлеўскі. Пытаньні эміграцыі ў Польшчы. Варшава — 1927 г.)

Вось асноўны факт гаспадарчай прыроды Польшчы, які ня быў у свой час зьменены радыкальнай рэформай дый які цяпер даў магчымасьць асабліва глыбака і небясьпечна разьвіцца крызісу, перажываваму цяпер Польшчай.

---

Польшча перажывае гаспадарчы крызіс цяжэй і катастрафічней, як якая іншая з дзяржаваў якраз таму, што яна ня мае перад усім унутранай гаспадарчай апоры ў сябе, ня мае ўнутранага рынку, без якога ня можа быць гаспадарчай самастойнасьці, ніякай запраўднай сілы, ніякага трывалага разьвіцьця ўласнай прамысловасьці ў краі.

Перамога вялікай уласнасьці ў Польшчы — побач з цэлым радам іншых чыньнікаў — выклікала тое, што прадукцыя краю, асабліва прадукцыя сельска-гаспадарчая, пачала працаваць пераважна на вываз, на вонкавы рынак. Пры гэтым трэба падчыркнуць, што інтарэсы вялікіх уласьнікаў, прадукуючых на вываз, зьбягаліся з інтарэсамі магутнага міжнароднага прамыславага капіталу, які якраз вызначаў Польшчы выдатную ролю ў лічбе аграрных (сельска-гаспадарчых) краёў, трэбуючы ад яе чым больш усялякага сыр'я ды прадуктаў сельскае гаспадаркі — у абмен на свае прамысловыя тавары. Гэткім чынам для Польшчы — на пагляд магутных яе вялікіх уласьнікаў — неяк рабілася «непатрэбнымі» — ані ўласная яе прамысловасьць, ані ўласны яе ўнутраны рынак...

Усе сілы і срэдзтвы дзяржавы кідаліся на падтрыманьне і ўсіленьне вывазу — на замежныя рынкі. Вываз гэты часта меў дзіўны характэр, карысны для вялікіх прадуцэнтаў, але яўна некарысны для краю.

Так напрыклад газа ў краі каштуе 50 зл. за 100 кілягр., а заграніцай тая-ж польская нафта прадаецца па 3[illegible] зл. за 100 кілягр. Цукар для краёвага спажыўца каштуе 82 зл. за квінталь, а на вываз — толькі 32 зл.

Ці-ж з гэтага ня ясна, што Польшча сваю гаспадарчую апору шукала не ў сябе ўнутры, не на сваім краёвым рынку, не ў свайго спажыўца, якога сама-ж руйнавала, але знаходзіла дачасу гэтую апору навонках — у патрэбах замежнага рынку, пакуль той, зразумела-ж, патрэбаваў польскага сырцу ды прадуктаў польскай сельскай гаспадаркі.

Дык вось, пакуль цэны на сусветным рынку стаялі добрыя, буйныя ўласьнікі — экспортэры ў Польшчы, карыстаючыся ўсімі палёгкамі з боку ўлады і скарбу, неяк падтрымлівалі гаспадарчую раўнавагу краю.

Але як толькі на сусьветным рынку пачаўся агульны крызіс, як толькі для польскага жыта, мяса, вугальля, цукру, дрэва і інш. аказаліся залішне нізкія цэны, ды залішня мала месца, ды залішня многа канкурэнтаў, дык вось і разразіўся той нячуваны па глыбіне і сіле і небясьпечнасьці крызіс, які мы перажываем цяпер усе.

Дык нідзе, ні ў якой іншай краіне не перажываецца гэты агульна-сьветавы крызіс так цяжка таму, што ніводны край ня мае такога ўбогага, такога зруйнаванага ўнутранага рынку, як Польшча.

---

Як паведамляюць польскія газэты, адбыўся маршалкоўскі суд паміж паслом Ярэмічам і ўкраінскім паслом Яворскім, каторы ў сваім Клюбе паўтарыў зроблены нашай часопісяй закід паслу Ярэмічу адносна атрымліваньня праз яго грошы на барацьбу з Грамадой ад польскіх уладаў. На судзе была заслухана заява былага віленскага ваяводы, цяперашняга маршалка Сэнату, Рачкевіча, — пасьля чаго пасол Яворскі перапрасіў пасла Ярэміча, а суд справу спыніў.

Падаючы гэта да ведама нашых чытачоў, выказваем нашу радасьць, што гэты закід, у істоце сваей страшэнна цяжкі, як відаць, аказваецца беспадстаўным. З свайго боку выясьняем, што інфармацыю адносна пасла Ярэміча мы атрымалі праз былага супрацоўніка нашае газэты, якому верыць у той час мы мелі пэўную падставу, — тым балей, што інфарматар наш абязаўся даць доказы праўдзівасьці ягонае весткі на каронным судзе, якога мы і трэбавалі рашуча, каб выявіць усю праўду ў гэтай справе, маючы наўвеце інтарэсы як усяго беларускага грамадзянства, так і пастаўленага пад гэткім цяжкім закідам беларускага пасла.

Такім чынам і мы, бяручы зроблены ў сваім часе нашай газэтай няслушна-крыўдны закід назад, лічым справу высьветленай і пасла Ярэміча — рэгабілітаваным.

